

Душу - Богу, жыцьцё - Беларусі, годнасьць - для сябе!

# ПАХОДНЯ

№ 11
ЛІПЕНЬ
2006

# БЕЛАРУСЬ ПЕРАДУСІМ!

Шаноўныя грамадзяне! Сёньня над нашай Радзімай навісла рэальная пагроза страты незалежнасьці, найвышэйшай каштоўнасьці для любога народу. Зацягнуўшаяся гульня беларускай улады ў інтэграцыю з Расеяй загнала нашу Краіну ў кут, найбольш магчымы выхад зь якога страта суверэнітэту. Што гэта азначае для кожнага з нас?

Для беларускай моладзі - гэта служба й праца не на карысьць уласнай эўрапейскай дзяржавы, а блуканьне на абшарах чужой імпэрыі і сьмерць за чужынскія інтарэсы ў гарачых кропках.

Для беларускай кіруючай эліты (наменклатуры) - гэта залежнасьць ад рашэньняў з новага цэнтру, страта ўплыву і паступовая ратацыя на служкаў з глыбіні Расеі .

Для працоўных і прамыслоўцаў - гэта гвалтоўная прыватызацыя, новыя гаспадары і скарачэньне працоўных месцаў.

Для прадпрымальнікаў - гэта бандыцкі перападьдзел "па рускі" са стратай рынкаў і бізнэсу.

Для беларускіх спартоўцаў - гэта адсутнасьць магчымасьці на сусьветных спаборніцтвах бараніць гонар Рэспублікі .

Для ўсяго грамадства - гэта расейскі крымінал і сотні тысяч некантралюемых мігрантаў на вуліцах беларускіх гарадоў.

Для Беларусі - зьнікненьне з палітычнай мапы краінаў сьвету і акупацыя.

Не здрадзім нашай шматпакутнай Бацькаўшчыне і нашым гераічным продкам, не дапусьцім аншлюсу! Мы народ. Мы беларусы! Скажам рашучае НЕ паўзучай акупацыі.

Будзьма гаспадарамі нашай сьвятой зямлі.

**Радзіма альбо сьмерць!**
**ПРАВЫ АЛЬЯНС.**

# РАСЕЯ ПАВІННА ЗРАЗУМЕЦЬ

Апошнім часам на гарызонце двухбаковых адносін Беларусі й Расеі замаячыў пьяны ўгар рускіх шавіністаў пад назовам аншлюс, як лягічны працяг зацягнуўшагася сяброўства. Час ад часу інфармацыйны выкід робіць газэта "КомерсантЪ", дзе са спасылкай на дакладную крыніцу ў Крамлі, выдае далейшыя расклады ў сфэры энергетычных адносін суседак, шакуючы беларускіх чыноўнікаў новымі коштамі на блакітнае паліва $100-150-200, зразумела, без ніякіх намёкаў на кепскі жарт. Зь першага абывацельскага погляду - ўсё даволі лягічна, гэта справы асобных суб'ектаў гаспадараньня, беларускі бок ня першы год упарта гне сваю лінію па "Белтрансгазу", адфутбольваючы зацікаўленых расейцаў нерэальнай для тых лічбай продажу, а ўсходнему манапалісту "Газпраму" надакучыла субсідаваць "беларускае эканамічнае цуда" за ўласны кошт - і ніякай палітыкі.

Але гэта толькі падаецца, што справы ляжаць толькі ў эканамічнай прасторы. Разгледзім становішча Беларусі й яе кіраўніцтва пасьля выбараў. Абсалютнае непрызнаньне афіцыйных вынікаў сакавіцкіх выбараў з боку заходніх краінаў і далейшыя санкцыі з нарастаючым ціскам цывілізаванай супольнасьці, паўсталае грамадства, якое ўжо не магчыма кантраляваць прышчэпкамі страху ды прапаганды, да таго ж пахіснуўшаеся здароўе зноўку пераабранага.

А што Расея? Адмазаўшыся віншаваньнем з чарговай перамогай, Расея як набіраючы моц геапалітычны гулец спрабуе максімальна скарыстаць тупік разьвіцьця й ізаляцыю Беларусі на сваю карысьць. Фактычна, калі для беларускай улады заходні вектар абрублены, Расея праз натуральнага манапаліста "Газпрам" ставіць Лукашэнке ультыматум: альбо здавай праз рэферэндум краіну, альбо праз пару год сам папросішся. І ўсе гэта на тле моладзевых пратэстаў, "недалётаў" Сідорскага, выступаў Мілінкевіча ў НАТА. Час ад часу Крэмль праз свой кіруемы рупар Жырыноўскага зандуе рэакцыю грамадстваў на імперскія ініцыятывы, калі той агучыў адзін з варыянтаў аб'ядналньня - аншлюс Беларусі, нават без захаваньня якой-небудзь аўтаноміі й пасады прэзыдэнта, ўсё проста - 8-ая фэдэральная акруга Расеі. Да гэтага ж адкрыўся й сказаў, што абмяркоўваў гэтае пытаньне з самім ВВП. Пагадзіцеся, неяк ня ўпісваецца ў тон дыферамбаў лепшаму прэзыдэнту СНД, якія нам надакучылі круціць па БТ у час выбарчай кампаніі.

Але разумеечы, што захад такі варыянт не прызнае, да таго ж трэба захоўваць твар пры старшынстве ў G8 Масква пачынае шматхадовую гульню каб легітымізаваць свае імпэрскія памкненьні. Крок першы: спыненьне беларускага цуда праз павышэньне коштаў на газ і забарону рээкспарту Беларусьсю па заніжаным коштам расейскай нафты. Крок другі: раскол празаходняй і пранацыянальай кааліцыі ды адстаўка Мілінкевіча, фармаваньне новай кантралюемай пракрэмлёўскай беларускай апазыцыі. Крок трэці: маючы некалькі рычагоў уздзеяньня - эканамічны ("Газпрам") і палітычны (пракрэмлёўская апазыцыя), дэстабілізацыя беларускага рэжыму.

Пасьля ажыцьцяўленьня гэтых крокаў Расея, як котка з схопленай мышшу, рэалізуе свае імпэрскія гульні, што пры любых раскладах дае ёй патрэбны вынік.

Але адное, што ў такіх раскладах не ўлічыла Расея - гэта новае маладое пакаленьне беларусаў, якое ніколі не пагодзіцца са стратай суверэнітэту сваёй Радзімы. І калі дэмакратызацыі краіны можна пачакаць і 2 і 5 год, то з абдымкаў усходняга драпежніка, мы па гісторыі ведаем, можна вызваляцца стагоддзямі. Таму адказ пагрозе аншлюсу будзе адэкватны й Расея мусіць разумець, што акцыяй пратэсту і галадоўкамі моладзі гэта ня скончыцца. Хутчэй за ўсё ёй прыйдзецца адкрыць заходні фронт і разьлічвацца за інкарпарацыю жыцьцямі сваіх грамадзянаў. Гульні ў старэйшага брата тут не атрымаецца.



# Наша ідэалёгія

Час ад часу даводзіцца чуць у бок Альянсу словы - дыягназы: - А, правыя, нацыяналісты, мауляў, гэта кола апантаных беларусафілаў без асаблівых палітычных перспектываў - таму зь імі ўсё ясна. Але ня трэба губляць час, спрачацца ды даказваць адваротнае. Так, мы з гонарам прымаем імя нацыяналістаў, бо адным з цэнтральных стрыжняў "Прынцыпаў Правага Альянсу" зьяўляецца сьвятая Нацыянальная ідэя. Ідэя, якая падцьвердзіла сваю трываласьць і ня згубіла сваёй вартасьці праз стагоддзі, абуджаючы і сілкуючы жыватворнай крыніцай свой народ. Таму паважнае месца ў нашай ідэалёгіі займае беларусазнаўства - вучэньне аб беларускай нацыі.

Сусьветная гісторыя сьведчыць, што ніводная зь іншых сусьветных ідэалёгій, акрамя нацыяналізму, ня можа ў неспрыяльных умовах, за кароткі час, абудзіць і змабілізаваць народныя масы дзеля дасягненьня нацыянальных мэтаў.

Мы, беларускія патрыёты-дзяржаўнікі (нацыяналісты-кансэрватары), у адрозьненьні ад марксістаў і лібэралаў шануем свае спраўджаныя стагоддзямі нормы і лічым, што:

- Народ, нацыя зьяўляюцца самым вышэйшым і самым трывалым тыпам чалавечай супольнасьці - вышэй і мацней за любыя грамадскія клясы;

- Нацыі - гэта не гістарычна прыходзячыя зьявы характэрныя пэўнай гістарычнай эпохе чалавецтва, гэта вышэйшая форма грамадзкага аб'яднаньня, якая лучыць усе пакаленьні й нязьменна ў часе, бо нацыя ў нашым разуменьні - гэта ўсе жывыя, памерлыя і яшчэ ненароджаныя прадстаўнікі этнасу;

- У міжнародным пляне суб'ектамі гісторыі зьяўляюцца нацыі, а не клясы ці іншыя фармацыі;

- Найлепшай міжнароднай сістэмай, якая ў роўнай ступені адпавядае інтарэсам усіх народаў, міжнароднаму супрацоўніцтву, сапраўднаму сяброўству народаў, зьяўляецца сістэма нацыянальных дзяржаваў усіх народаў сьвету;

- Самыя прыдатныя ўмовы для ўсебаковага разьвіцьця народу забясьпечвае толькі нацыянальная, незалежная дзяржава - мэта нацыяналістаў;

- Для нас, беларускіх патрыётаў-дзяржаўнікаў, найвышэйшым імператывам зьяўляюцца не загады й парады з усходу ці захаду, а нацыянальныя інтарэсы, дабрабыт і шчасьце беларускага народу ва ўласнай дзяржаве.

Галоўным і актуальным заданьнем нашай нацыі на сучасным этапе мы лічым барацьбу за нацыянальнае адраджэньне й адбудову свайго незалежнага нацыянальнага дому, які заняў бы сваё належнае месца між зьвязу эўрапейскіх дзяржаваў, дзе квітнела бы нарадаўладзе (дэмакратыя). Па дасягненьню гэтых мэтаў ідэалёгія нацыяналізму часткова трансфармуецца й набывае рысы ідэалёгіі кансэрватызму, каб закансэрваваць, замацаваць і зрабіць незваротнымі нацыянальныя здабыткі народу і дзяржавы.

**Ідэя! Нацыя! Дзяржава!**

**Ю. Карэтнікаў.**

## У ГУШЧАРАХ

* * *

У гушчарах, затканых імглою,
Шэрым змрокам на золку зары,
Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

Ахвяруем табе мы сабою
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцах жалю ды страху,
Мы адвагай юнацкай гарым.
Не чужыя варожыя сілы -
Толькі ты нас вядзеш да зары.

Не чужыя варожыя сілы -
Толькі ты нас вядзеш да зары.

Хмараў дым над аблогамі тае,
Вецер дыхае мятай, быльлём.
Беларусь, Беларусь, залатая,
За цябе, за цябе мы ідзём.

Беларусь, Беларусь, залатая,
За цябе, за цябе мы ідзём.

Словы Натальлі Арсеньневай, музыка М.Шчаглова-Куліковіча. Гімн партызанаў-незалежнікаў у 50-х гадах XX ст. Выкарыстоўваецца таксама сябрамі Правага Альянса ў якасьці гімна.

# СТРАТЭГІЯ

**Вызначым мэты і тэрміны.** Генэральную стратэгічную мэту прызнаюць сёньня ўсе дэмакратычныя сілы. Гэта - свабодная, незалежная, дэмакратычная Беларусь. Адпаведна фармулююцца мэты, пасьлядоўнае дасягненьне якіх забясьпечвае рэбныя істотныя перамены ў стратэгіі працы з грамадзтвам.

**v** Вызначаны тэрмін - да канца 2007 году. Гэта мае на ўвазе няспынную ды інтэнсіўную дзейнасьць на ўсіх кірунках, якія будуць вызначаныя стратэгіяй.

кропка адліку.

**Людзі** - прыхільнікі свабоды - галоўны рэсурс і галоўнае дасягненьне выбарчай кампаніі 2006. Упершыню ў гісторыі барацьбы з рэжымам пасьля палітычнай кампаніі колькасьць праціўнікаў рэжыму, якія



дасягненьне галоўнай мэты:

**v** Стварэньне ўмоваў, пры якіх улада вымушана згадзіцца на правядзеньне свабодных выбараў усіх галінаў улады.

**v** Правядзеньне свабодных выбараў і перамога на іх дэмакратычных сілаў.

**v** Адраджэньне эканомікі, правядзеньне дэмакратычных рэформаў і аднаўленьне міжнародных сувязяў.

Найбольш важным момантам у вызначэньні мэтаў і тэрмінаў трэба лічыць тое, што:

**v** Чарговыя выбары больш не вызначаюцца як момант "Х", да якога прывязваюцца ўсе пляны і дзеяньні. Гэта азначаць, што ініцыятыва вызначэньня такога моманту павінна перайсьці ў рукі дэмакратычных сілаў (далей ДС), а таксама, што пат-

**Мэту бліжэйшага часу** (ад 1 да 2 гадоў) мы вызначаем так: стварыць сытуацыю, калі ўлада будзе вымушаная правесьці свабодныя выбары ўсіх галінаў улады.

**Тактычныя мэты**, якія забясьпечваюць яе выкананьне: * Захаваць і ўмацаваць (а дзе неабходна - узнавіць) адзінства арганізаваных дэмакратычных сілаў.

**Рэсурсы.** Рэсурс часу мы вызначаем самі - мы не зьбіраемся чакаць яшчэ 5 год! Мы даб'емся дэмакратычных выбараў цягам 1,5-2 гадоў. Мала гэта ці шмат - залежыць ад ступені нашай актыўнасьці. Канечне, гэта - умоўны тэрмін, у залежнасьці ад сытуацыі ён можа некалькі скараціцца ці расьцягнуцца. Але гэта - рэальная

жадаюць удзельнічаць у дзеяньнях, накіраваных на дасягненьне генэральнай мэты, ня зьменшылася, а вырасла, і пры гэтым мае рэальныя перадумовы да далейшага росту. Павелічэньне прыхільнікаў свабоды павінна стаць найбольш важнай стратэгічнай задачай.

Важна разумець, што падтрымкі большасьці, імкненьне да якой увесь час дэкляравалі дэмакратычныя сілы, можна дасягнуць толькі праз актыўнасьць меншасьці. Калі аб'яднаць максымум гатовых да грамадзянскага дзеяньня - тых, каго мы называем прыхільнікамі свабоды, то на рэшту - тых, хто вагаецца будуць уплываць не 1%, а 10-15% ад усяго грамадзтва. А гэта - мільён актыўных, упэўненых,

моцных людзей. Тады ў патрэбны момант да нас без пытаньняў далучыцца хісткая "маўклівая большасьць" (каб быць "як усе"), спэцназ застанецца без загадаў, а міліцыянты і чыноўнікі будуць сустракаць дэмакратаў крыкамі: "Жыве Беларусь!"

**Тэхнічныя рэсурсы** ўсё болей абмяжоўваюцца рэжымам. Але рост прыхільнікаў свабоды нараджае новыя магчымасьці. Гэта кампутары, прынтэры, ксэраксы і да т.п., якія знаходзяцца ў карыстаньні тысячаў чалавек, гэта новыя падыходы ў выкарыстаньні інтэрнэту, гэта масавае інфармаваньне праз мабільнікі і проста вусная перадача інфармацыі.

**Іншыя рэсурсы**. Сёньня дэмакратычныя сілы атрымалі ў свае рукі некалькі новых рэсурсаў, гэта:

**v** Раскручаны "твар" будучай дэмакратычнай улады - адзіны кандыдат.

**v** Сцьверджаньне Свабоды як галоўнай каштоўнасьці для тых, хто не згодны з тым, што "у Беларусі ўсё ціп-топ", лёзунг "свабода", яго візуальнае ўвасабленьне, пабудаваныя на яго аснове пасланьні і матэрыялы - гэта таксама новае дасягненьне. Важна, што "Свабода" акумулюе ў сабе і абарону нацыянальнай Незалежнасьці, якая можа стаць востра актуальнай у выпадку спробы "газавага аншлюсу".

**v** Адносіны міжнароднай супольнасьці таксама зьмяніліся - цяпер дэмсілы і наяўны лідэр - гэта фактары, якія ўлічваюцца ў палітыцы Эўропы, Амэрыкі і Расеі.

**Дзеяньні.** Мы самі ствараем сытуацыю, калі можам эфэктыўна дзейнічаць. Досьвед паказвае, што ў сытуацыі высокай грамадзкай актыўнасьці рэакцыя ўладаў на выклікі запаволеная і няўпэўненая. Можна сказаць, што больш таго, яна - хваравітая. Значыць, для аслабленьня рэжыма, трэба "давіць яго, і давіць без перапынку".

Такім чынам, менавіта кампаніі мірнага ціску на ўладу павінны скласьці аснову грамадзянскага дзеяньня, якое можа прывесьці да адмовы рэжыму ад спробаў задушыць грамадзтва і да вымушаных перамоваў з дэмакратычнымі сіламі, якія яму супрацьстаяць. Важна адзначыць, што супрацьстаяньне - гэта неабходны стан грамадзтва для перахода ўлады ад аўтарытарна-таталітарнай сыстэмы да ўсталяваньня дэмакратыі. Аднароднае, "згоднае" грамадзтва выгоднае рэжыму, у ім адсутная дынаміка і яно няздольнае да зьменаў.

Канфлікт, натуральна, не павінны азначаць фізычнага сутыкненьня нязгоных, а мае на ўвазе вострае супрацьстаяньне пазыцыяў, меркаваньняў, у якім рэжым зазвычай аддае перавагу прыёмам падаўленьня апанэнтаў. У гэтай сытуацыі грамадзтва павіннае супрацьпаставіць рэжыму ня толькі сілу аргумэнтаў, сілу сваёй веры, але і моц салідарных дзеяньняў, у першую чаргу тых групаў, якія складаюць ядро дэмакратычных сілаў.

Асноўныя прынцыпы кампаніяў мірнага ціску можна сфармуляваць так:

**v** Няспыннасьць - нельга даваць рэжыму перадыху.

**v** Максымальная легальнасьць - выкарыстоўваць усе магчымасьці, каб апанаваць каналы і рэсурсы рэжыма і, наколькі магчыма, захоўваць людзей ад рэпрэсіяў.

**v** Значнасьць мэтаў - удзельнікі кампаній і грамадзтва павінны ведаць, што іх дзеяньні скіраваныя ня толькі на "дробных сошак", а на дасягненьне галоўных мэтаў, у першую чаргу - гэта капітуляцыя рэжыму.

**v** Канцэнтрацыя высілкаў - там, дзе ініцыююцца кампаніі ціску, яны павінны дабівацца выкананьня пастаўленых задач. Для гэтага іх трэба правільна плянаваць і дамагацца аб'яднаньня ўсіх магчымых сіл.

**v** Бясьпека - Высілкі ня толькі адпаведных структураў ДС, але й грамадзтва павінныя быць скіраваныя на тое, каб гарантаваць ім юрыдычную, матэрыяльную і маральную падтрымку і салідарнасьць.

Падрабязьней чытайце на сайце кампаніі "За Свабоду" - www.za-svabodu.org




## Песьні Свабоды-2

Музычны лэйбл VoliaMusic пачаў працу над выданьнем другой часткі дыску "Песьні свабоды". Неабходнасьць другой часткі выдаўцы тлумачаць некалькімі прычынамі. У першую чаргу гэта зьвязана з вялікай актыўнасьцю музычных калектываў, што дасылаюць шмат песьняў за свабоду. Дый падчас працы над першым дыскам, шмат добрых песень давялося адкінуць праз недахоп месца на CD. Падпіска на дыск адкрытая на сайце za-svabodu.org, тамсама можна замовіць "Песьні Свабоды" (ч.1), а mp3 вэрсіі песьняў, як і раней, можна скачаць на http://music.fromby.net/sliberty/

# БЕЛАРУСКІЯ ЭТНІЧНЫЯ ТЭРЫТОРЫІ

Па розных прычынах Беларусь напаткала вялікая геапалітычная трагедыя. Трэцяя частка беларускіх этнічных тэрыторый апынулася па-за яе межамі. У сучаснай Беларусі гэтае пытанне не атрымала належнага розгласу і рэзанансу, таму Правы Альянс пакідае за сабой права прыцягваць увагу грамадскасці да гэтай праблемы

Актыўна супрацоўнічаць і дапамагаць этнічным Беларусам замежжа ў іх праве на захаванне нацыянальнай культуры, традыцый, мовы і кансалідацыю. Дамагацца ад кіраўніцтва Беларусі абароны беларусаў замежжа, калі яны падвяргаюцца ціску і дыскрымінацыі па нацыянальным адзнакам уладамі краін, грамадзянамі якіх яны з'яўляюцца.

ПА не мае тэрытарыяльных патрабаванняў да суседніх дзяржаў, але ўсе гэтыя тэрыторыі ПА лічыць беларускімі этнічнымі тэрыторыямі. Тут на працягу стагоддзяў пражывала этнічнае беларускае насельніцтва, якое пакінула багатую гісторыю і стварыла аўтэнтычную, самабытную культуру. Гэта спадчына з'яўляецца неадемнай часткай беларускай нацыянальнай культуры і патрабуе захавання і вывучэння.

Падставай для гэтых сцвярджанняў служаць шматлікія даследванні пачатку XX ст. вядомых вучоных (Карскі, Доўнар-Запольскі, Канчар і інш.) і складзеныя імі этнаграфічныя карты. Гэтыя тэрыторыі цалкам уваходзілі ў склад дзяржаўных межаў БНР і часткова ў склад ССРБ, БССР.

**Беларусь з 1918г. па 1945г. страціла >30% сваіх тэрыторый.**

На працягу XX ст. у выніку дамоў без удзелу беларускага боку была згублена значная частка тэрыторый населеных этнічнымі беларусамі.

Да Расеі былі далучаны Бранская, Смаленская, а таксама частка Пскоўскай вобласці.(№1). Да Латвіі была далучана Дзвіншчына (Даўгаўпілс) (№2). Да Летувы адыйшлі Віленская вобласць і некаторыя раёны з пераважна беларускім насельніцтвам Ковенскай. (№3)

Польшчы пасьля вайны была падаравана Беластоцкая вобласць і раёны беларускага Падляшша (№4).

Нумарацыя ў тэксце адпавядае нумарацыі на мапе БНР 1918г. Таксама на мапе можна параўнаць тэрыторыю Беларусі ў 1918г. і сённяшнюю тэрыторыю, межы якой усталяваліся пасьля 1945г.

# ГРУНВАЛЬД 1410-2006



**Чым вызначыліся беларусы ў бітве пад Дуброўнай?**

У пераможнай бітве галоўных сілаў Вялікага Княства Літоўскага ды Польскага Каралеўства з Тэўтонскім (Нямецкім) Ордэнам 15 ліпеня 1410 года пад Грунвальдам, або пад Дуброўнаю (так называюць гэтую бітву беларускія летапісцы) - найбуйнейшай бітве Сярэднявечча, якая вызначыла лёс не аднаго эўрапейскага народа, большыню войска Вітаўта Вялікага складалі беларусы.

Паводле тагачаснага craніста Длугаша, на пабаявішчы адважна змагаліся беларускія харугвы: Віленская, Гарадзенская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Пінская, Навагародская, Берасцейская, Ваўкавыская, Дарагічынская, Старадубская, Мельніцкая. Вядома ж, сярод іх былі й не названыя кранiстам харугвы - Менская, Слуцкая, Аршанская, Амсціслаўская ды іншыя.

Калі да апошняга часу афіцыйнай гістарыяграфіяй лічылася, што адыход харугваў Вялікага Княства з пабаявішча па якой гадзіне сечы быў панічнымі ўцёкамі, дык даследванні новых дакументаў пераконваюць, што гэта быў запланаваны тактычны ход Вітаўта, неабходны для размыкання баявых парадкаў цяжкаўзброеных рыцараў ды рассейвання іх па шырокай мясцовасці. Асноўныя сілы Ордэна з левага фланга адразу памкнуліся за «ўцекачамі» і ўвязлі каля абозаў арміі Вялікага Княства. Тым часам на Вітаўтавым крыле да ўступлення палякаў у бітву нямецкіх рыцараў мужна стрымлівалі і амаль цалкам палеглі ў лютай сечы беларускія харугвы былой Смаленскай зямлі - Аршанская, Амсціслаўская і Смаленская (якія ў расейскай гістарычнай літаратуры фігуруюць як «русские смоленские полки»). Дзякуючы гэтаму ўсё ордэнскае войска неўзабаве было атачанае і ў двух вялізных «катлах» дазвання разгромленае альянтамі. Гэтак вырашальнае значэнне для гістарычнай перамогі мелі адмысловы манеўр, бліскуча праведзены вялікім князем Вітаўтам, і мужнасць нашых продкаў. Цана ж гэтае перамогі была надта вялікая: не менш як палова ваяроў, прыведзеных пад Дуброўну Вітаўтам, палегла на пабаявішчы.

**Значэньне і вынікі бітвы**

Прыярытэты ў зьнешняй палітыцы Вялікага княства Літоўскага ў другой палове XIV - XV стагодзьдзі зьмяняліся. З XIII стагодзьдзя ВКЛ вяло напружаную барацьбу з крыжацкай агрэсіяй. Нашэсьце Тэўтонскага Ордэна пагражала ня толькі разбурэньнем славянскіх і балцкіх гарадоў і вёсак, фізычным зьнішчэньнем народаў, але й духоўным упадкам, анямечваньнем этнічных груп, што насялялі Ўсходнюю Эўропу. Таму барацьба з тэўтонцамі стала барацьбой за выжываньне. Пяць разоў спрабавалі крыжакі захапіць Полацк, чатыры - Навагрaдак, нападалі на Гародню і іншыя гарады. . Рашэньне аб вайне з крыжакамі было прынятае ў 1408 годзе на радзе Ягайлы і Вітаўта. Яны дамовіліся сабраць усе магчымыя сілы й перамагчы тэўтонцаў. У 1409 годзе пачалася "Вялікая вайна" паміж Польшчай, ВКЛ, з аднаго боку, і Тэўтонскім Ордэнам - з другога. Вырашальны ўдар быў нанесены Тэўтонскаму Ордэну ў бітве пад Грунвальдам. Грунвальдзкая бітва разьвеяла ўяўленьні аб нязломнасьці і непераможнасьці Тэўтонскага Ордэна. Яго палітычная і ваенная моц была зломленая. Удар для тэўтонцаў быў настолькі ашаламляльны, што землі ўсходніх славян пяць стагодзьдзяў ня ведалі нямецкай агрэсіі. Разгром крыжакоў павысіў аўтарытэт ВКЛ і Польшчы ў Заходняй Эўропе.



***

Адчыняюцца дзьверы, у пакой залятае хлапец:
- Здарова, бацька!
Бацька сядзіць за кампутарам, не паварочваючы галавы, пытаецца:
- Ты дзе бадзяўся?
- У войску быў. Два гады адслужыў!
- Калі ідзеш з дому, трэба казаць бацькам, куды паплёўся!

***

- Што патрэбна, каб выратаваць белую дзяўчыну ад пяці чорных гвалтаўнікоў?
- Адзін баскетбольны мяч.

***

Дзядзька, вы ў лесе нарадзіліся?
- Не, чаму?
- Мой тата заўсёды кажа: "Зноў да нас сунецца стары пень".

***

Сёньня мы, нарэшце, застанемся адныя, - кажа дзяцюк дзяўчыне.
- Я набыў тры квіткі ў кіно.
- А навошта тры?
- Тваёй маці, бацьку і брату.

***

Грузін стаіць каля радзільнага дому і крычыць:
Ну што, нарадзіла?
- Так!
- Хлопца?
- Не.
- А каго?!

***

У Беларусі распрацавана новая сістэма галасаваньня - па Інтэрнэту. Хто галасуе за Лукашэнку, ідзе на сайт president.za. Тыя, хто супраць, - на сайт kgb.by. Там вам растлумачаць, як патрапіць на сайт president.za.



***

- Алё! Гэта пажарная?!
- Так.
- Тут доктар з міліцыянтам б'юцца - я і ня ведаю, куды тэлефанаваць...

***

...24 траўня гэтага году, знаходзячыся ў стане алькагольнага апьяненьня пры выкананьні службовых абавязкаў ст. лейтэнант міліцыі Барысаў В.А. нечакана адкрыў агонь, а пасьля вынайшоў кола.

***

Таварыш Сталін выступае на сходзе перад працоўнымі завода:
- Таварышы, маю сумную вестку, забілі таварыша Кірава.



Голас з задніх радоў: - Каго?!
Сталін: - Забілі таварыша Кірава.
Голас з задніх радоў: - Каго, каго?!
Сталін: - Кірава.
Голас: - Каго?!
Сталін: - Каго трэба, таго і забілі!

***

Беларускія турфірмы абвесьцілі аб новай прапанове кліентам: у Піцер па скарынаўскім мясьцінам.

***

Жонка тэлефануе мужу:
- У мяне вада патрапіла ў



карбюратар.
- Ты хоць ведаеш, што такое карбюратар, дзе машына,?
- У возеры...

***

- Алё. Абрам у хаце?
- Так, але вянкі ўжо вынесьлі.

Выдадзена на абсталяваньні беларускае дыяспары Чэхіі. Наклад 298 асобнікаў.
"Паходня" №2 ліпень 2006г. / www.rightall.org / paxodnia@gmail.com